РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*Янка Купала*

Выдаецца са снежня 1994 года | №6 (24), ліпень 1999 года | Кошт па дамове

## Яшчэ адзін палітэмігрант

Рэдактар міліцэйскай газеты **"На страже"**, якую шмат хто выпісвае і чытае ў Глыбокім, папрасіў палітычнага прытулку ў адной з краін Еўропы. Ён сам паведаміў аб гэтым па тэлефоне на беларускую службу радыё "Свабода". Сцвярджаў, быццам спецслужбы змушалі яго публічна прызнацца ў тым, што ён незаконным чынам даваў грошы на дзейнасць свайму сябру генералу Захаранку. У выпадку адмовы, страшылі кінуць у турму і засудзіць за пакупку паперы для газеты па завышаным кошце ў фірме, дзе працавала яго жонка. У сталіцы супраць яго ўзбудзілі крымінальную справу за фінансавыя махінацыі.

## Ці тое яшчэ будзе, ой-ёй-ёй...

За зняцце дзяржаўнага сцяга з будынка Полацкага райвыканкама 9 красавіка 1998 і 10 красавіка 1999 г. ваеннаслужачаму беларускай арміі Сяргею Лавейкіну і студэнту з Наваполацка Алегу Койдаву прысуджана па 200 млн. руб. штрафу. Другому студэнту, Анатолю Блізняцову, які "стаяў на шухеры",-- 20 млн. руб. Як тлумачаць хлопцы, яны -- за родную Беларусь, за нацыянальнае адраджэнне, але ў нас, як у той песні Пугачовай "бей своих, чтоб чужие боялись". Чужыя, аднак, баяцца не вельмі. Цікава, што будзе расійскім "беркутаўцам", якія ў Светлагорскім раёне замянілі лукашэнкаўскі сцяг андрэеўскім? Ёсць аб чым падумаць пакуль не позна: яшчэ не аб'ядналіся, а ўжо аб Беларусь выціраюць ногі расійскія падлеткі. Пасля аб'яднання "то ли ещё будет, ой - ёй - ёй..."

## Тры беларускія ксяндзы

У ліпені гг. высвечаны тры першыя ксяндзы, падрыхтаваные ад пачатку да канца ў Беларусі, у Гродзенскай семінарыі. Алесь Баргановіч з Браслава, Язэп Мельдзюк з Нарачы, а таксама наш зямляк Зміцер Барыла з Глыбокага.

Зміцер Барыла вучыўся ў глыбоцкай СШ №2.

Апошнім часам стажыраваўся ў мосарскім касцёле Святой Ганны.

"Вольнае Глыбокае" шчыра віншуе нашага земляка з пачаткам духоўнай дзейнасці.

**В.Шпак**

## ГЛЫБОКАЕ ЖЫВЕ ВЯЛІКІМ ФУТБОЛАМ




Наўрад ці мае яшчэ які горад Беларусі такую цудоўную панараму над футбольным полем.




Глыбоцкія аматары вяртаюцца з футбола.

*18 ліпеня на гарадскім стадыёне г.Глыбокае адбыўся чарговы футбольны матч паміж камандамі "Азярцы" (Глыбокае) і "Дынама" (Мінск). Гульня сабрала звыш 3000 балельшчыкаў з Мёр, Шаркоўшчыны, Браслава, Докшыц і скончылася з лікам 1:4 на карысць мінскіх дынамаўцаў. Сур'ёзная, напружаная гульня была. Але падзея гэта не абышлася без шматлікіх здарэнняў і кур'ёзаў.* ***Чытайце пра гэта ў артыкуле "Вялікі футбол у Глыбокім" на 3-яй старонцы.***

## 20 мільёнаў "зайцоў" і дзве скрынкі гарэлкі

-- такі "падарунак" жыхарам Светлагорскага раёна, пацярпелым і пакрыўджаным "налётам" расійскіх "беркутаўцаў" зрабіў прадпрымальнік з Сургута А.Сілівончык, які прафінансаваў вышэйназваны "вылет" на Беларусь. Ці не занадта дзешавое "адкупное"?

## Па літру віна "за геразім і подзвіг"

атрымалі перад святам Дня Перамогі сёлета ветэраны-пенсіянеры некаторых вёсак Глыбоччыны. Праўда, "адкупное" нечым падобнае на "падарунак" Селивончыка?

Як жа нізка мы цэнім самі сябе! Як жа нізка цэняць нас, беларусаў, іншыя.

## Амерыканскае грамадзянства

прыняў нядаўна сын былога савецкага кіраўніка Мікіты Хрушчова 64-гадовы Сяргей Хрушчоў. Цікавае тое, што Сяргей стаў грамадзянінам дзяржавы, якую ў свой час грозіўся дагнаць і абагнаць яго бацька. Цытуем: "Праз некалькі год Вашы дзеці і ўнукі будуць жыць у камуністычнай Амерыцы". Так казаў Хрушчоў-старэйшы, звяртаючыся да амерыканцаў. Тыя ў адказ даводзілі: "Праз некалькі год Вашы дзеці і ўнукі будуць жыць у капіталістычнай Расіі". Прадказанні Хрушчова не спраўдзіліся, а вось амерыканцы, па ўсім відаць, маюць рацыю.

## Аб адзінай валюце

думае ўрад Беларусі, а найбольш свядомыя грамадзяне мяркуюць аб тым, што пусціўшы за гаспадара ў рэспубліку расійскі рубель, многія працоўныя перастануць своечасова атрымоўваць зарплату і за бясцэнак будуць працаваць ужо не на сваю, а на расійскую эканоміку.

Адзіны рубель. Адзіныя межы. Адзіная культура. Адзіная мова... Беларусь растворыцца ў Расіі, як лыжка цукру ў шклянцы вады. Што робім? Куды лезем? Навошта прадаём сябе за бясцэнак?

## Новы жыллёвы кодэкс

прадугледжвае аплату за агульную плошчу памяшкання, а не за жылую, як было раней.

Уводзяцца штомесячныя адлічэнні ў фонд капрамонта, якія будуць брацца з усіх катэгорый жыльцоў у памеры паловы новай аплаты за кватэру. Асобны від плацяжоў -- за карыстанне ліфтамі ў шматпавярховых дамах.

## Па 2000$

выплочваюць улады кожнаму грамадзяніну, улічваючы і навароджаных, у адным канадскім горадзе ў канцы года. Гэта акрамя добрых заробткаў напрацягу года. Мы таксама можам "пахвваліцца" падобнымі статыстычнымі дадзенымі. "Аказваецца, знешні доўг Беларусі не такі ўжо і вялікі, - прагучала па радыё з вуснаў вядучай праграмы "Размова па сутнасці", -- калі раскінуць на ўсіх грамадзян, то атрымаецца па 91$ з кожнага". Проста цудоўна! Нашы працоўныя, якія, быццам рабы, напрацягу доўгіх год клалі сілы і здароўе, атрымліваючы мізер, яшчэ **засталіся павіннымі**. З доўгам **ужо нарадзіліся** нашы дзеткі. Яшчэ не атрымаўшы ад дзяржавы ні на грош, яны ўжо **павінны** ёй амаль 40 мільёнаў! Дажыліся! Многія нашы грамадзяне сапраўды з радасцю сустракаюць 5-годдзе кіравання прэзідэнта. З радасцю не ад таго, што "вельмі шмат ім зроблена дзеля народа", а ад таго, што падобны "клопат" пра народ, можа, нарэшце, хутка скончыцца.

**М.Закрэўская**

## Цытата нумара

Покорный своей незатейливой доле
Дворник сидит и спит.
И снится ему: на родимом "престоле"
Такой же **безграмотный дворник** сидит.

*Из журнала "Зритель"*

## інфармацыйны блок ПРЫСТУПКІ
### падзеі і факты без каментарыяў

❑ З 1-га ліпеня пагранічным уладам рэспублікі Польшча прадстаўлена права здзяйсняць функцыі агляду тэхнічнага стану аўтамабіляў на пагранпераходах. Гэта азначае, што польскія мытнікі цяпер могуць забараняць уезд на тэрыторыю сваёй краіны няспраўным аўтамашынам.

❑ Дзве ночы правеў старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ў гатэлі пры Міжнародным адукацыйным цэнтры, дзе некалькі пакояў зарэзерваваны для АБСЕ.

❑ 15 ліпеня ў Мінск прыехаў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Паездка прыватная і праз 8-10 дзён В.Быкаў вернецца ў Фінляндыю, дзе зараз ён жыве і працуе.

❑ Сёлета Беларусь перамясцілася з 68-га на 60-е месца па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу ў спісе з 174 краін. Лідыруюць у спісе Канада, Нарвегія і ЗША. Ня гледзячы на тэмпы росту багацця на планеце, за апошнія 10 год становішча насельніцтва 85 краін пагоршылася.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў У.Някляеў прыслаў загад, згодна якога, выконваючай абавязкі старшыні Саюза назначаецца Вольга Іпатава. А яшчэ Ў.Някляеў у Варшаве напісаў верш з нагоды заканчэння 5-гадовага тэрміну кіравання прэзідэнта. Чытайце яго на 3-яй старонцы.

❑ 15 дамоў-інтэрнатаў для састарэлых і інвалідаў працуюць зараз на Віцебшчыне. У іх жывуць 3200 пенсіянераў. На ўтрыманне інтэрнатаў выдзелена 546 мільярдаў рублёў: мізэр у параўнанні з тым, што трэба.

❑ 112 чалавек, у тым ліку 23 дзіцяці, патанулі ў рэках і азёрах Віцебшчыны ў чэрвені, у пачатку ліпеня -- 22. Для параўнання, за ўвесь мінулы год у вадзе загінула 214 чалавек.

❑ 13 ахвотнікаў паласавацца рыбай у пастаўскіх "Навінках", жыхары Глыбоцкага і Шаркоўшчынскага раёнаў, аштрафаваны амаль на 5 мільёнаў кожны.

❑ У мінулым годзе ў Глыбоцкім раёне медыкі выявілі 37 выпадкаў захворванняў сіфілісам. Сёлета пакуль зарэгістраваны толькі 4 выпадкі.

## Прадпрымальнікі супраць саюза з Расіяй.

Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў Оршы і Аршанскага раёна правёў сацыялагічнае даследванне сярод 200 прадпрымальнікаў. На пытанне "Паляпшаюць ці пагаршаюць сувязі з Расіяй эканамічнае становішча ў РБ" 23,9% апытаных адказалі -- паляпшаюць, 42,6% -- пагаршаюць. Супраць аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву выказаліся 54,2% прадпрымальнікаў, "за" -- 28,4%. Лідэр прафсаюза А.Сталяроў, які займаўся апытаннем, быў затрыманы міліцыяй. Пазней Сталярову паведамілі, што яго справа будзе перададзена ў КДБ.

## У суседзяў юбілей

Днямі вёска Лужкі Шаркоўшчынскага раёна адзначала 480-годдзе. У свой час найбольшы ўклад у развіццё мястэчка ўнёс полацкі каштэлян Валерыян Жаба. У 1744г. ён заснаваў тут першую школу і касцёл Святога Міхаіла Архангела, які працуе і сёння. У XIXст. Лужкі былі цэнтрам воласці. Тут працавалі вадзяны млын, паштовая станцыя, фабрыка па вырабу швейцарскага сыру, вінакурня. Цікава, што ў 1831г., падчас паўстання супраць рускага войска, у Лужках была сабрана асноўная "збройная сіла", якая 8-га мая вызваліла ад рускіх Дзісну. Сёння ў пасёлку жыве больш 900 чалавек. Цікава, ці ўсе яны, нашчадкі былых паўстанцаў, падтрымліваюць палітыку аб'яднання з Расіяй?

Віншуем нашых суседзяў з юбілеем і жадаем ім аднавіць тую вытворчасць, якая існавала ў XIXст.

**А.Маліноўская**

# Шыхт, зважай! Крокам руш!




На здымку: кароль і каралеўна са світай назіраюць за рыцарскім турнірам ля дзядзінца Каўнаскага замка. На заднім плане сцягі беларускіх рыцарскіх клубаў.

*Вяртаючыся да надрукаванага*

**У мінулых нумарах нашай газеты ("ВГ" №3/21 за 1999 г.) быў апублікаваны артыкул "Шыхт, зважай! Крокам руш!", у якім выказвалася прапанова аб стварэнні ў Глыбокім рыцарскага клуба. Гэтую ініцыятыву бярэ на сябе газета "Вольнае Глыбокае". Сёння мы маем магчымасць азнаёміць нашых чытачоў з дзейнасцю беларускіх рыцарскіх клубаў, так бы мовіць, у "баявой абстаноўцы". У Літву былі запрошаны ваенна-гістарычныя клубы "Жалезны воўк" (Наваполацк) і Беларускі рыцарскі клуб (Мінск).**

**Гэты матэрыял адмыслова прадстаўлены "Вольнаму Глыбокаму" непасрэдным ўдзельнікам ніжэйзгаданай падзеі.**




На здымку: рыцары паказваюць сваё баявое майстэрства ў двары Тракайскага замка.

**6 ліпеня -- дзень дзяржаўнасці Літвы. У гэты дзень, некалькі стагоддзяў таму, адбылася каранацыя вялікага князя літоўскага Міндоўга. Гэты дзень святкуецца на самым шырокім дзяржаўным узроўні ў Літве, як у сталіцы, так і ў невялікіх гарадах і мястэчках.**

**Мы не будзем удавацца ў перыпетыі нашай далёкай гісторыі, але варта сказаць што Міндоўг атрымаў карону для сябе і сваёй жонкі ад Папы Рымскага. Каранаваўся ў нашым беларускім горадзе Навагрудку, які быў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Зрэшты, Літвой тады звалася тэрыторыя сучаснай Заходняй Беларусі, а цяперашняя Літва мела назоў Жмудзь. Цікава і тое, што паводле дамовы, якую заключыў Міндоўг, да Лівонскага ордэна адышла Жмудзь (тэрыторыя сучаснай Літоўскай Рэспублікі). Такі быў кошт кароны. З гэтай нагоды беларусы імкнуцца даказаць, што Міндоўг быў больш беларускім каралём чым літоўскім. Тым больш, невядома дакладнае месца яго нарадзінаў.**

***

У Літве няма пакуль рыцарскіх клубаў. На тэатралізаваную частку святкавання ўгодкаў каранацыі Міндоўга, па запрашэнню Каўнаскага ваенна-гістарычнага музея імя Вітаўта Вялікага, сюды прыехалі беларускія рыцарскія клубы. Яны выступілі са сваёй 40-хвіннай тэатралізаванай пастаноўкай.

Дзеі адбываліся 4 ліпеня на фоне Каўнаскага замка. Быў выхад караля і каралеўны са світай. Два конныя рыцары ў даспехах суправаджалі шляхцянку. Коней для турніра выдзелілі літоўцы.

Кароль і каралеўна сядзелі на троне і разам з прынцэсай і світай назіралі за рыцарскім турнірам. Нагадаем, што ў гэтай тэатралізаванай пастаноўцы ўдзельнічаў рыцарскі клуб "Жалезны воўк", які складаецца са студэнтаў тамтэйшага універсітэта, у складзе якіх ёсць і нашы хлопцы з Глыбоччыны, а таксама Беларускага рыцарскага клуба з Мінска.

Беларускіх рыцараў цёпла сустрэлі літоўцы, размясцілі іх у Каўнасе ў казарме вайсковай часткі.

На другі дзень, 5 ліпеня, дэлегацыя ад`ехала ў Тракай. Тут, на востраве, у замку, які быў некалі рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх, адбыўся працяг святкавання дня каранацыі Міндоўга, на якой са сваёй праграмай выступілі польскія рыцарскія клубы.

Між іншым, наваполацкія хлопцы вельмі крытычна аднесліся да рыцарскага рыштунку, зробленага палякамі. У адрозненне ад суседзяў, нашы землякі вырабляюць яго па той самай тэхналогіі, якая была ў часы рыцарства.

На трэці дзень, 6 ліпеня,-- галоўны дзень урачыстасці,-- нашы рыцары паехалі ў Вільню, дзе святкавалі разам з прэзідэнтам Літвы В. Адамкусам. Ён выйшаў са свайго прэзідэнцкага палаца пад гарматны салют і бурныя авацыі прысутных.

Вось так, фактычна беларускае свята, адзначаюць у суседняй краіне. Нам толькі застаецца пазайздросціць і чакаць, калі ў нашай краіне ўсталюецца сапраўды беларуская ўлада.




На здымку: на "поле бітвы" выходзіць Беларускі рыцарскі клуб (БРК) з Мінска.

P.S. Фонд развіцця традыцыйнай культуры ў канцы ліпеня ладзіў чарговы эксклюзіўны тур "Па слядах адной ліцвінскай дружыны". У праграме вандроўкі -- наведванне Прагі ды Кракава, легендарных чэшскіх замкаў і збраёўняў. Галоўная мэта паходу -- рэканструкцыя бітвы каля замка Млазавіцэ, захопленага гусіцкім войскам Яна Жыжкі ў 1424 годзе. У грандыёзным прадстаўленні з сапраўднымі мячамі ў руках сабраліся каля трох соцень рыцараў ледзь не з усёй Еўропы. Да нашага гонару, у мерапрыемстве ўдзельнічалі 10 беларускіх рыцарскіх клубаў.

Герб горада Глыбока над Влтавай.



**Томаш ІРСА, староста чэшскага горада Глыбока над Влтавай (Hluboka nad Vltavou) шукае горад-пабрацім на Беларусі. Такую інфармацыю перадала нашай газеце беларуская моладзевая арганізацыя, якая была тут на семінары. Прадстаўнікі яе справядліва заўважылі: навошта шукаць нейкі іншы горад, калі ёсць на Беларусі "цёзка" -- горад Глыбокае.** Т. Ірса, ста-раста (мэр) Глыбокі, **зацікавіўся гэтай ідэяй. На грамадскіх пачатках мы паспрабуем усталяваць кантакты з гэтым чэшскім горадам. Аб выніках перапіскі мы паведамім чытачам "Вольнага Глыбокага" пазней.**

**Ул. Скрабатун**

## *Навінкі з кніжнай паліцы*

### Tadeusz Kragel, "Męczennicy z Berezwecza", Białystok.




У Беластоку па-польску выйшла кніга **"Пакутнікі з Беразвечча"**. Выданне складаюць тэксты, якія тры гады раней друкаваліся ў віленскай газеце "Znad Wilii". Аўтар -- ксёндз Тадэвуш Крагель -- шмат гадоў прысвяціў даследванню лёсаў святароў, што загінулі ў апошнюю вайну. На Віленшчыне з 1939 па 1944 г. загінула звыш 100 чалавек. У кнізе распавядаецца і пра трох беларускіх ксяндзоў: **Уладыслава Мацькавяка, Станіслава Пыртка і Мечыслава Багаткевіча,** якія былі закатаваны ў Беразвецкім лагеры смерці, усталяваным савецкімі ўладамі ў былым кляштары. Яны адмовіліся пакінуць вернікаў і загінулі разам з імі. Цяпер яны, як пакутнікі за веру, беатыфікаваныя каталіцкай царквой. Апроч таго, у кнізе распавядаецца і пра іншых вязняў Беразвечча. Савецкімі ўладамі тут было забіта звыш 4 700 тутэйшых людзей. А пасля ўжо гітлераўцы закатавалі тут 27 000 чалавек з розных краін. Беразвецкі лагер дзейны ў Беларусі і сёння -- там калонія строгага рэжыму. Адзінае, пра што не згадваецца ў кнізе, пра першы канцэнтрацыйны лагер, створаны палякамі ў 1921 - 24 гг. Тады тут каталі беларускіх удзельнікаў антыпольскага партызанскага руху.

**С. Харэўскі**

## Гарэлка пад назовам "Вораг беларускага народа"

Глянеш на цэтлікі тавараў, якія вырабляюцца ў нашай краіне, ды такі сум ахоплівае! Не інакш, як вытворцы нейкую хваробу падхапілі. "Славянскую". Сыр "Славянскі", маянез "Славянскі", піва "Славянскае", згушчонае малако "Славянскае", вуліца "Славянская"... Ды й яшчэ якога ражна там "славянскага" няма! Глядзіш, і паедзеш на "Славянскі Базар", а ў дарогу возьмеш пачытаць газету "Славянскі набат"...

Тут ужо нешта расавай тэорыяй патыхае. А калі я ў сваім радаводзе знайшоў нармандскія ці кельтскія карані? Дык што мне тады не есці "Славянскі" сыр ды не хадзіць па Славянскай вуліцы?

У глыбоцкія крамы завезлі новую гарэлку пад назовам "Цар". Ну якая розніца?-- скажаце. Ці не ўсё роўна якую брыдоту жлукціць?




Прыгледзьцеся да гэтай этыкеткі. Там не хто іншы, як Іван Грозны, ці інакш -- Жахлівы. Вось тут можна і папярхнуцца гэтай вадкасцю, калі згадаеш, што войскі гэтага "цара" спалілі Ластавічы, Беразвечча, Задарожжа. У 1654 годзе спапялілі ўсе драўляныя касцёлы ў Глыбокім, у тым ліку і колішні, замест якога пабудавалі потым сённяшні Троіцкі касцёл. А колькі панішчана беларусаў у той вайне?

Дык ладна! Што было, тое было. Можа гэтая гарэлка імпартная? З Расіі? Не! Выраблена на Віцебскім лікёрагарэлачным заводзе. У нас, на Беларусі.

Згарым мы, братцы, ад гэтай гарэлкі, як некалі згарэла Глыбокае ад войск рускага цара.

**В. Шпак**

*па той бок мяжы*

## ЖУРНАЛІСЦКІЯ



*Галіна Сутула*




**10.**

Свой аповяд пра славутасці Варшавы пачну з кароценькага экскурса ў гісторыю.

Першыя пасяленні, з якіх потым утварылася сучасная Варшава, з`явіліся ў X-XI ст. Да канца 13 ст. тут была пабудавана крэпасць, якая служыла рэзідэнцыяй князёў мазавецкіх. Вакол яе з цягам часу быў узведзены горад з назвай Варшава.

Пасля 1569 года горад становіцца месцам пасяджэнняў Сейма Рэчы Паспалітай. З 1573 г. тут адбываюцца выбары польскіх каралёў. У 1596 г. Зыгмунт III Ваза прымае рашэнне аб пераносе каралеўскай рэзідэнцыі з Кракава ў Варшаву, зрабіўшы яе сталіцай усёй Польшчы.

Кіруемся ў Стары горад да каралеўскага замка.

Будаваць яго пачалі ў 14 ст. з камня. Пасля шматлікіх дабудоў, перабудоў замак стаў пяцівугольным па форме, з унутраным дваром. Дамінавала над усім замкам высокая вежа з гадзіннікам. Яе так і назвалі -- Вежа Сігізмунда, альбо гадзіннікавая. Да цяперашняга гадзіннік "лічыць" час, падаючы свой "голас" польскай сталіцы. Зусім побач, па-суседству з замкам, высотная калона Сігізмунда. На прыступках калоны любяць адпачываць палякі і сфатаграфавацца прыезджыя. На плошчы перад каралеўскім замкам, забрукаванай каменнем, стаяць конскія фурманкі, на якіх, пры жаданні, можна аб`ехаць Стары горад. І коні, і фурманкі ўпрыгожаны, фурманы ў даўніх польскіх касцюмах.

На плошчы перад замкам артысты ладзяць свае канцэрты, крыху далей мастакі выстаўляюць свае работы. Іх можна і паглядзець, і набыць.

**11.**

Размешчаны ўнутры крэпасной сцяны Стары горад -- "сэрца" сучаснай Варшавы. На мяжы 14-15 стст. на поўнач ад яго быў заснаваны Новы горад.

Чым жа цікавы Стары горад? Найперш прынцыпам сваёй забудовы -- прынцыпам шахматнай дошкі. Яго цэнтральная плошча -- Рынак -- прадстаўляе сабой прамавугольнік, ад кожнага вугла якога бяруць пачатак дзве вуліцы. Будынкі пабудаваны перпендыкулярна вуліцам. У час вайны Стары горад быў узарваны немцамі і пачаў адбудоўвацца пасля 45-га года.

Галоўнае месца Старога горада -- цэнтр эканамічнага і палітычнага жыцця -- Рынак. Будынкі вакол яго належалі заможным польскім сем`ям. На многіх пабудовах захаваліся роспісы, фрэскі, даўняя архітэктурная аздоба.

Вуліцы тут брукаваныя, вузкія. Рух аўтамабіляў забаронены. Рынак дзейнічае і сёння і недзе каля 11 гадзін раніцы ў нядзелю сюды сцякаюцца і гандляры, і пакупнікі, і проста цікавыя людзі.

У Старым горадзе працуюць склепы і невялічкія рэстаранчыкі.

У 1548 годзе па праекту венецыянскага архітэктара Джаванні Батціста быў пабудаваны Барбакан -- вялізная паўкружная пабудова з бай-

# ВЯЛІКІ ФУТБОЛ У ГЛЫБОКІМ

## КУБАК БЕЛАРУСІ: 1/16 ФІНАЛА

### Азярцы (Глыбокае) -- Дынама (Мінск) 1:4(1:0)

**Глыбокае. Гарадскі стадыён. 18 ліпеня. 3000 гледачоў; суддзя -- Ф. Пецяга (Гродна).**

**Галы:** 1:0 Болдыраў (11), 1:1 Вострыкаў (64), 1:2, 1:3 Ледзянёў (67,88), 1:4 Трэпачкін (89).

**Папярэджаны:** Ясінскі.

**Быў час, калі глыбачане цэлай дэлегацыяй ездзілі на вялікі футбол у сталіцу Беларусі. Ехалі, каб паглядзець і "пабалець" за мінскае "Дынама". Часы мяняюцца. Цяпер сталічнае "Дынама" прыехала само, каб паказаць сябе. Але, мы ўжо "балеем" за сваю каманду "Азярцы"... Глыбокае на адзін дзень стала футбольнай "меккай" у паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі. Падтрымаць глыбачан прыехалі заўзятары футбола з Докшыц, Шаркоўшчыны, Мёр і Лепеля.**

**Гэта было сапраўды вялікае футбольнае свята. Але, на жаль, яно не скончылася перамогай нашай каманды. Забіўшы гол ужо на 11 хвіліне першага тайма ў вароты мінчан, наша каманда трымала выграшны рахунак да 64-ай хвіліны матча. Глыбачане не выглядзалі "хлопчыкамі для біцця" і на роўных змагаліся за галы, і востра атакавалі. Колькі было нявыкарыстаных момантаў (!), якія, некаторых вельмі эмацыйных глыбоцкіх балельшчыкаў, даводзілі ледзь не да істэрыкі. Усе ведалі кошт гэтага матча.**

**-- Трэба гол! Трэба два! Трэба кубак UEFA!!!-- скандыравалі перапоўненыя трыбуны стадыёна.**

**Родныя сцены падтрымлівалі каманду "Азярцы". Аднак клас і спартыўны досвед мінчан усё ж зрабілі сваю справу. За апошнія 25 хвілін другога тайма яны забілі чатыры бездакорныя мячы ў вароты глыбачан.**

**Як не прыкра было канстатаваць гэты факт, але на адлегласці часу кажаш сам сабе: "Нічога трагічнага не адбылося! Можна было б перастаць паважаць мінскае "Дынама", каманду вышэйшай лігі, каб яна прайграла глыбоцкім "Азярцам", камандзе другой лігі нацыянальнага чэмпіянату. Здарылася тое, што павінна было здарыцца". Але заўсёды хочацца верыць у цуд! Цуд, аднак, не адбыўся. Верыцца, што самыя гучныя і сенсацыйныя перамогі глыбачан яшчэ наперадзе.**

## курʼёзы

### падчас матча

Прыехалі ў Глыбокае і "фаны" мінскага "Дынама". Глыбоцкая міліцыя, напэўна, зрабіўшы высновы з трагедыі на "Нямізе", падрыхтавалася належным чынам да сустрэчы адпаведна настроенай публікі.

Ёсць перакананне, што фанаты, якія едуць у чужы горад падтрымаць сваю любімую каманду, маюць спецыфічны менталітэт. Яны ведаюць: будуць сутычкі з міліцыяй і мясцовымі аматарамі футбола. Ведаюць і самі ахвотна правакуюць канфлікты. Яны маральна да гэтага падрыхтаваны. Для моладзі -- гэта рамантыка! Рамантыка вандровак і знаёмства з невядомымі дасюль гарадамі, рамантыка боек з міліцыяй і мясцовымі балельшчыкамі, рамантыка ў п'янках і нечаканых здарэннях. Будзе потым што распавесці сябрам і знаёмым.

Так здарылася і ў час таго прыезду. Хлопцы ў бела-блакітных шаліках з фірмовымі сцягамі белага колеру і вялікай сіняй літарай "Д" дэманстратыўна крочылі па вуліцах Глыбокага, звяртаючы на сябе ўвагу "калхознікаў" і спакушаючы міліцыю. Яны пілі гарэлку ў скверах, гучна крычалі, устройвалі на вуліцах валтузню, уносячы ў ціхае і размеранае жыццё Глыбокага поўны дыскамфорт. Праваахоўнікі некалькі разоў спынялі дружную калону і папярэджвалі.

Ужо пры ўваходзе на стадыён, першыя тры, найбольш разагрэтыя алкаголем мінскія "фаны", атрымалі па карку дубінкамі і былі пасаджаны ў варанок.

Калі пачаўся матч, дзеля перасцярогі ўсіх мінскіх "фанаў" пасадзілі ў адным месцы. Побач ланцужком расцягнулася міліцыя. Службу неслі нават дзве аўчаркі. Пакуль перавага была за "Азярцамі", мінчане сядзелі ціха, але калі дынамаўцы распачалі лік і хутка перагналі глыбачан, на стадыёне пачалася "бура" апладысментаў і галасоў. Мінскія балельшчыкі, нарэшце, атрымалі шанц выплеснуць свае пачуцці. І каб не пільнае вока праваахоўнікаў, невядома якой была б рэакцыя пры-езджых. Ва ўсялякім разе, перад пачаткам матча, госці вялі сябе не зусім прыс-тойна, нават нахабна: з па-гардай пазіралі на мяс-цовых аматараў, называючы іх "колхозниками".

І ўсё ж належнае мінскім балельшчыкам трэба аддаць Іхняя група, каля 70 чалавек, выглядала вельмі арганізаванай і натрэніраванай камандай. Іхнія рухі на стадыёне з шалікамі і сцягамі глядзеліся як цудоўная тэатралізаваная пастаноўка пад выдатнай рэжысурай. Будучым глыбоцкім "фанам" тут ёсць што пераняць. Толькі шкада -- няма пакуль "азярэцкіх" шалікаў і сцягоў.

> **Што трэба "Азярцам"??? Трэба гол! Трэба два! Трэба Кубак UEFA!!!**
>
> *Мясцовы футбольны фальклор*

Матч скончыўся, але прыгоды мінчан працягваліся.

### пасля матча

Пасля гульні мінчане дружным шэрагам, амаль па-армейску, пайшлі ў бок цэнтра. Глыбоцкія ж аматары пачалі высвятляць хто правы, хто вінаваты і справакавалі мінчан на бойку. Першая правакацыя скончылася няўдачай. Мінскія маладзёны проста адагналі глыбоцкую "шоблу" ў накірунку касцёла.

Але каля кансервавага завода да аднаго з гасцей падышлі некалькі фанатаў "Азярцоў" на яўным падлітку і... ў гэты раз адбылася невялічкая патасоўка, якая хутка ж і скончылася: "дуэлянтаў" расцягнулі падбегшыя міліцыянты.

Зразумеўшы ўсю складанасць становішча, стражы парадку літаральна заключылі мінчан у кола і павялі на цэнтральны пляц. Там іх ужо чакаў... міліцэйскі варанок з кратамі на акенцы (у такой машыне возяць злачынцаў). Гасцей запрасілі сесці ў машыну, якая, паводле слоў міліцыі, адвезла іх на вакзал і засцерагла ад далейшых прыгод. Мінчане спачатку былі супраць, але потым палова натоўпу залезла ў варанок, а другая частка пайшла пехатой у накірунку вакзала.

Гэты "цырк", іншага слова знайсці нельга, з супрацьлеглага боку вуліцы назіралі глыбачане. Некаторыя са здзіўленнем і сорамам за свой горад, а іншыя з болем за пройгрыш глыбоцкай каманды і з жаданнем спагнаць злосць, меркавалі: так ім і трэба, будуць памятаць нашых!

### эпілог

Так скончыўся гэты футбольны дзень 18 ліпеня ў Глыбокім. Дзень -- незвычайны ў найноўшай гісторыі горада. Вынікам яго сталі: у Глыбокае прыйшоў вялікі футбол! "Азярцы" пагулялі з колішнім грандам савецкага і еўрапейскага футбола. Глыбоцкія балельшчыкі ўбачылі сапраўдную гульню. Мясцовая міліцыя ўпершыню (напэўна) у сваёй гісторыі, не на трэніроўцы, а ў рэальных умовах прадухіліла магчымыя масавыя беспарадкі.

Глыбокае жыве вялікім футболам.

**Л. Гай-Баркоўскі.**

---

### На 20 ліпеня 1999 года



*Народу можа засціць зрок*
*Без дай прычыны.*
*Ды бачыць Божа кожны крок*
*На звод Айчыны.*

*У вочы вам адплаты час*
*Зірне сурова.*
*Каб дзеці апраўдалі вас –*
*Вярніце мову.*

*Няма пачаткаў і канцоў,*
*Усё – працяг.*
*Каб не ўскіпела ў жылах кроў*
*Вярніце сцяг.*

*І славы сверб, што вас скубе,*
*І ўлады сверб –*
*Пакіньце ўсё сваё сабе,*
*Вярніце герб.*

*Дальбог, пра гэта не са зла*
*Малюся ў скрусе,*
*А каб зямля вас прыняла*
*На Беларусі.*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**
**Варшава.**

---

# МАНАЛОГІ

***Працяг, пачатак у №№ 3(21),4(22),5(23)за 1999 год***

ніцамі і парапетам, высокімі пірамідамі і моцнымі сценамі.

На сцяне Старога горада стаіць статуя сірэны, са шчытом у адной руцэ і з мячом у другой. Гэтая фігура стала сімвалам горада, яе выява прадстаўлена на варшаўскім гербе.

З высокіх прыступак Барбакана бачна Вісла, блізлеглае наваколле, шпіль калоны Сігізмунда.

**12.**

Падышлі мы і да помніка Адаму Міцкевічу, слыннаму паэту. Ля падножжа помніка -- жывыя кветкі. Магутную постаць паэта ахінае аксаміт парка. У такім спакойным куточку, думаю, нядрэнна пісалася б і сучаснаму песняру.

Універсітэцкі гарадок за варотамі, выкананымі ў стылі барока і ўпрыгожанымі ў цэнтры фігурай каранаванага польскага арла. Уваход упрыгожаны скульптурамі, якія размясціліся ў нішах.

Варшаўскі Універсітэт быў заснаваны ў 1816 годзе. З 1869 года трансфармаваўся ў Расійскі Імператарскі і толькі з 1915 года стаў нацыянальнай вышэй-шай установай.

Шмат хто з маіх новых знаёмых у Польшчы скончыў яго, нехта займаецца там на факультэтах тэалогіі, мастацтва, філасофіі, журналістыкі.

Заходзім у касцёл Святой Ганны. Дзівімся багаццем і раскошай убранства. Побач з касцёлам каменная фігура Богамаці Пассаўскай, якая налічвае больш трохсот год з дня "нараджэння".

Касцёлы ў Варшаве ледзь не на кожнай вуліцы. Усяго іх дзвесце і толькі дзве царквы.

У адным з іх мы паслухалі арганную музыку. У другім трапілі на першае прычасце.

Крочым далей. Сучасная рэзідэнцыя польскага ўрада. Нібы папяровыя фігуркі, стаяць, не варухнуцца, ахоўнікі за варотамі.

**13.**

Пасля агляду архітэктурных славутасцей Варшавы мы накіроўваемся на прыроду. Астравок зелені, цішыні і характва размешчаны амаль у цэнтры горада -- парк Лазенкі. Раней тут палявалі князі Мазавецкія.

У самым цэнтры -- Палац на вадзе. Ён абвіты двума вадаёмамі. Калі стаць на мосціку і паназіраць, то ўбачыш вялізных памераў карпаў, якія засяляюць водны прастор. Наведвальнікі, хто ад сябе, падкармліваюць іх. Лавіць іх забаронена, таму рыбам тут вольніца. Качкі, якія купкамі плаваюць ля берагоў і таксама не супраць пачаставацца ласункамі, са страхам расплываюцца ў розныя бакі, калі з вады падымае галаву таўшчэзны карп. А яшчэ ля ніцых лоз ходзяць паўліны. Людзей яны не баяцца і, відаць, адчуваюць сябе камфортна. Запушчаны на англійскі манер парк, хавае ад пякельнага сонца і ад дажджу, наталяе спакоем і прыгажосцю.

Прама пад ногі з дрэва сігае вавёрка. Садзіцца на заднія лапкі і глядзіць у вочы: так просіць гасцінца. Даю ледзянец. Яна прымае падарунак, спрабуе на зуб і нясе яго на дрэва, у дупло.

Калі няма чым яе пачаставаць, яна будзе доўга следаваць за вамі, чакаць і спадзявацца.

Вавёрак у парку шмат. Яны, зусім не баючыся, скачуць па плячах і бегаюць па людзях, як па дрэвах.

Ёсць у Лазенках і тэатр на вадзе. Гледачы садзяцца на берагу, а на востраве адбываецца дзея...

Выходзім у вірлівы горад, садзімся на трамвай і едзем па галоўнай вуліцы -- Маршалкоўскай. І хоць многія палякі больш упадабалі багаты даўнінай Кракаў, Варшава таксама захапляе. І бадай самая важная акалічнасць у тым, што яна -- сталіца.

***Працяг будзе***

---

**Усё пра Паставы**

# СПЯКОТНАЕ ЛЕТА 99-га

Вельмі баявым атрымалася адно з апошніх пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама, на якім разглядаўся і аналізаваўся ход палявых работ у гаспадарках раёна.

Разносна-выкрывальны накірунак сустрэчы адчувальна дысаніраваў з зухавата-аптымістычным тонам перадавіц раёнкі, дзе паймённа пералічваліся героі калгаснага лета-99. Як высветлілася, справы з нарыхтоўкай сена на Пастаўшчыне ідуць не зусім добра, дарэчы, як і ўсюды ў краіне. Але зоркае вока мясцовай "вертыкалі" бачыць усё і заўсёды напагатове: імкнецца выкрыць шкоднікаў і нядбайных гаспадароў. Ужо пачалі ляцець "галовы" страшынь калгасаў: ад пасады вызвалены кіраўнік гаспадаркі "Першае мая" Г.Ю.Максімовіч. Яшчэ 4 старшыні былі "ўзнагароджаны" вымовамі, двое -- строга папярэджаны за недастатковую руплівасць. Да таго ж на кожнага ўсклалі персанальную адказнасць за выкананне планаў нарыхтоўкі кармоў... Так званыя "перавагі" калгаснай сістэмы ў дзеянні!

Усё зразумела: мы не ідзем за ўсім цывілізаваным светам, але хаця б нейкая логіка ў дзеяннях нашага кіраўніцтва быць павінна. На лагічнае, здаецца, пытанне -- навошта нам жабрацкія калгасы, якія не могуць даць рады ні з сяўбой, ні з уборкай -- пакуль няма адказу. Сёлета беларускае кіраўніцтва вырашыла "адолець" палявыя работы з дапамогай старога савецкага лозунга: "Горад дапаможа вёсцы!" Зараз у Паставах усе 120 арганізацый і прадпрыемстваў, якія самі перажываюць далёка не лепшыя часы, вымушаны дасылаць сваіх супрацоўнікаў "на сена". Штодня каля 1000 гараджан працуюць на сенажацях Пастаўшчыны, прычым са сваімі косамі і граблямі. Забыўшыся пра здароўе і адпачынак, людзі добрасумленна выконваюць, упэўнены, свой абавязак. Але строгіх "вертыкальных" дзядзькаў задаволіць складана: яны па-ранейшаму выпісваюць вымовы і спагнанні за "марудныя тэмпы выканання заданняў па нарыхтоўцы зялёнай масы ў падшэфных гаспадарках..."

# Пастаўскія школы: у новы навучальны год у новай якасці.

Прыемныя змены адбыліся сёлета ў сярэдняй школе №3 г.Паставы. Кіраўніцтва школы сумесна з Беларускім Дзяржаўным тэхналагічным універсітэтам прыняло рашэнне адчыніць два ліцэйскія класы -- адзін 9-ты і адзін 10-ы. Профільныя класы дадуць магчымасць вучням атрымаць паглыбленую адукацыю па хіміі, матэматыцы і замежнай мове, паступіць у БДТУ. Школа і універсітэт ужо дамовіліся аб узгадненні вучэбных планаў і праграм, а таксама аб арганізацыі сумяшчэння выпускных экзаменаў у школе і ўступных у БДТУ. Зараз вучні ліцэйскіх класаў пастаўскай школы №2 будуць залічвацца ў студэнты ВУЗа па выніках профільных выпускных экзаменаў ў школе. Усяго універсітэт плануе пры паступленні выдаткоўваць 20% месц выпускнікам сваіх ліцэяў і профільных класаў.

Акрамя таго, БДТУ бярэ на сябе распрацоўку вучэбных планаў для профільных класаў, дапамогу ва ўзмацненні матэрыяльна-тэхнічнай базы школы, а таксама кансультатыўную работу па конкурсным адборы ў гэтыя класы. Плануецца таксама правядзенне ўступных экзаменаў па хіміі, матэматыцы і беларускай альбо рускай мовах (на выбар) для жадаючых вучыцца ў 9-10 класах па ліцэйскай праграме. Дагэтуль уступныя экзамены ў профільныя класы практыкавала ў Паставах толькі сярэдняя школа №1, якая спецыялізуецца на замежных мовах.

А вось пастаўская школа №4, хутчэй за ўсё, абмяжуецца пры залічэнні ў 10-ты клас конкурсам атэстатаў. Справа ў тым, што гэтая дзевяцігодка, якая месціцца на тэрыторыі былога вайсковага гарадка, нарэшце стане сярэдняй школай, хаця размовы аб гэтым вяліся напрацягу апошніх пяці год. Але адзіны 10-ты клас, які пачне вучыцца з верасня, можа не ўмесціць усіх жадаючых: занадта шмат выпускнікоў дзевятых класаў гэтай школы выказалі жаданне працягнуць навучанне ў яе сценах.

**Андрэй Аляксандраў**

*Землякі за мяжой*

*Сюды сышліся ўсе дарогі,*
*Тут мае ростані жыцця...*
*Віталь Гарановіч*




# ДАКРАНУЦЦА СЭРЦАМ ДА РАДЗІМЫ

 Галіна Сутула
журналіст

**6 ліпеня. Пярэдадзень свята Івана Купалы.**

Памаладзелы горад, туга спавіты сонечнай цяплынню, рыхтуецца да ўрачыстасці...

**На сёлетняе глыбоцкае свята трапіла і наша зямлячка, ураджэнка горада Соф`я Кухта.** Для гэтай энергічнай прыветлівай прыгожай жанчыны ліпеньскія дні -- падвоеннае свята: праз 56 год Соф`я прыехала на радзіму з далёкай Галандыі, дзе па сённяшні дзень жыве ў шчасці і згодзе са сваім мужам Йоганасам.

**Студзеньскім днём 1918 года Соф`я з`явілася на свет.** Яе маці толькі споўнілася пятнаццаць, але, нягледзячы на юны ўзрост, маладая жанчына з усёй адказнасцю аднеслася да нараджэння дачкі. Расціла, выхоўвала, як магла, а калі Соф`я падрасла і пачала пытацца пра бацьку, адмахвалася, нават імя не сказала.

Сям`я Кухтаў жыла ў хаце, якая стаяла непадалёк ад царквы на месцы цяперашняга кансервавага завода. Тады яшчэ па суседству з царвой была сажалка. Сёння Соф`я шкадуе, што гэтую прыгажосць "сцёрлі".

**У верасні 1939 года ў Глыбокае прыйшлі бальшавікі.** Што і казаць, многія людзі з жахам чакалі іх, расказваючы розныяневерагодныя гісторыі. Соф`я ўбачыла іх абоз, пабегла дадому, каб абрадаваць маці: "Мама, мама, прыйшлі бальшавікі, але яны такія ж людзі, як і мы!"

Гэта ўжо пасля яны пачнуць тварыць на Глыбоччыне сваю крывавую бальшавіцкую "гісторыю".

**Калі пачалася вайна, Соф`і было дваццаць тры гады.** Яе ўзрост падыходзіў для адпраўкі ў Германію. Многія бацькі, каб пакінуць сваіх дзяцей дома, "маладзілі" іх па дакументах, пісалі меншыя гады. Тады лічылі, што такім шляхам ратавалі дзетак ад смерці.

**Соф`ю вывезлі ў Германію ў 1943 годзе.** Працавала яна ў мястэчку Rehau Hof (Рэгаў Гоф) у немца, які меў сваю мясную краму і рэстаран. Акрамя таго, была вялікая гаспадарка: свінні, каровы. Па дзесяць кароў трэба было выдайваць Соф`і і па два-тры разы на дзень карміць свіней, дапамагаць у краме. Усю чарнавую работу выконвала -- было нялёгка.

**У тым далёкім мястэчку аказаўся і яе цяперашні муж, малады тады галандзец Йоганэс.** Яго таксама вывезлі ў Германію, але галандцаў, французаў, іспанцаў немцы лічылі як бы людзьмі першага гатунку, работу прадстаўлялі больш кваліфікаваную, адносіліся паважліва. Беларусы, палякі, рускія былі людзьмі "другаякаснымі" -- іх прымушалі выконваць самыя чарнавыя работы.

Йоганэс быў механікам. Яго залатыя рукі немцы цанілі... Соф`я і Йоганэс пазнаёміліся, пакахалі адзін аднаго і вырашылі звязаць свой лёс.

**У 1945-ым у Рэгаў Гоф уступілі амерыканскія войскі.** Людзі, вывезеныя на працу, мелі магчымасць выбіраць: вяртацца на радзіму ці заставацца на чужыне. Соф`я паехала з мужам на яго радзіму, у Галандыю.

З усмешкай успамінае тыя далёкія гады і адну падзею. Муж напісаў родным, што ажаніўся з на польцы. А тыя родныя думалі: раз жонка полька, значыць, нейкая дзікунка, цёмная і забітая, зусім не такая, як яны. Страхі развеяліся, калі яны ўбачылі маладую прыгожую руплівую дзяўчыну.

**Маладыя аселі ў горадзе Утрэхце, што ў 30 кіламетрах ад Амстэрдама.** Сёння гэты горад вядомы ва ўсёй краіне сваім буйным рынкам крадзеных аўтамабіляў.

Йоганэс уладкаваўся механікам у шведскую фірму **SKF**, галоўны офіс якой знаходзіцца ў Гётэборгу. Шчыра працаваў і зарабляў чыстымі, як у нас кажуць, па 220 долараў у месяц. Гэта, калі перакласці галандскія гульдэны на амерыканскія долары, больш зразумелую нам валюту.

**Сёння за гэтую ж работу механік атрымлівае за месяц 2.800$.** У 1983 годзе Йоганэс выйшаў на пенсію і атрымоўвае штомесяц 1.800 долараў.

**Соф`я не працавала ніводнага дня, бо патрэбы ў гэтым не было.** Сям`я арэндавала (і арэндуе да цяперашняга часу) двухпавярховы асабняк, за які штомесяц плоціць 500 гульдэнаў, ці, у перакладзе, 450 нямецкіх марак.

Зараз муж і жонка падумваюць аб тым, каб перабрацца ў дом для састарэлых. Праўда, аплата за знаходжанне там намнога большая: тысяча марак у месяц за кожнага чалавека.

-- Пакуль ёсць сілы і здароўе,-- кажа Соф`я,-- будзем жыць дома.

**Чым займаюцца Соф`я і Йоганэс зараз?**

Адпачываюць.

-- *Толькі што вярнуліся з трохтыднёвага адпачынку ў Іспаніі. Прыехалі на чатыры дні на Беларусь. Затым паедзем на Мальту, а ў кастрычніку наведаем Канарскія астравы,*-- дзеліцца сваімі планамі гаваркая суразмоўніца.

**Вось такі сусветны круіз у галандскіх пенсіянераў.** Да слова, Соф`і зараз мінула 81 год, а выглядае на 60, яе мужу -- 77. У іх абаіх хапае сіл, энергіі, а галоўнае грошай падарожнічаць па свеце і мець асалоду ад гэтага жыцця.

**Соф`я расчулена сустрэчай з Радзімай.** 56 год яна не мела магчымасці прыехаць сюды. Ніяк не ўдавалася атрымаць дабро ад беларускай амбасады ў Галандыі.

**-- Летась ваш прэзідэнт,-- кажа Соф`я,-- быў у Германіі, выступаў і казаў, што мае намер падымаць эканоміку.** Турысты могуць дапамагчы ў вырашэнні гэтай праблемы. Вось і прыехала я ў Беларусь як турыстка, а не ўраджэнка. Расійская фірма **Russia Travel,** якая абаснавалася ў Галандыі, адправіла нас сюды. Паездка абыйшлася ў 3 тысячы долараў: гэта білеты ў два бакі і пражыванне ў гасцініцы. За харчаванне плацім асобна. Усё было б добра, каб гасцініца адпавядала тым коштам, якія мы аплачваем. Дзякуючы накруткам расійскай фірмы, мы плацім за суткі пражывання ў Глыбокім па сто долараў з чалавека, а выгод ніякіх. Цеснавата -- ні павярнуцца, у нумарах няма ванны, душа.

Слухаю я нашу былую зямлячку і сорамна робіцца за дзяржаву, якая так "гасцінна" ўмее сустракаць сваіх суграмадзян, якая, можна сказаць, на людской настальгіі па радзіме, збіраецца ўздымаць эканоміку, прыносячы прыбытак у першую чаргу не сабе, а расійскім фірмам.

Для параўнання, скажу, што аднамесны нумар з тэлевізарам за суткі ў нашай гасцініцы каштуе 288 тыс. руб., двухмесны -- 213, чатырохмесны -- 113 тысяч.

Гэтыя сумы ну ніяк не блізкія да 40 мільёнаў, якія плацілі Соф`я з мужам. Наша гасцініца тут не пры чым, бо грошы ішлі расійскім камерсантам.

Як жа жывецца Соф`і за мяжой. Адказ на гэтае пытанне будзе адназначны: проста цудоўна!

-- Ці дарагія ў вас прадукты харчавання? Ці цяжка купіць мэблю? Колькі прыходзіцца эканоміць? Ці дарагія паслугі, такія як газ, электрычнасць, вада, ахова здароўя?...

Муж і жонка слухаюць мае пытанні, з непаразуменнем пераглядаюцца і паціскаюць плячыма. Яны не разумеюць, што такое дарагія прадукты харчавання. Ім не трэба эканоміць на сабе, каб нешта купіць, некуды з`ездзіць. Калі з пенсіі Йоганэса вылічыць усе плацяжы за вышэйпералічаныя паслугі, яшчэ застанецца 250 "чыстых" долараў. Скажаце не так і шмат? Але ёсць яшчэ адна акалічнасць.

У Галандыі, згодна заканадаўства, усім грамадзянам, якія дасягнулі 65-гадовага ўзросту выплачваецца па 550 доллараў у месяц, нават калі тыя не працавалі, як Соф`. ніводнага дня. Атрымоўвае гэтыя грошы Соф`я, атрымоўвае ў дадатак да сваёй пенсіі гэтыя грошы і Йоганэс. Таму і не лічаць капеек. Яны могуць дазволіць сабе ўсё, бо ведаюць: грошаў на ўласным рахунку ў банку ёсць шмат.

Калі ж 65-гадовыя галандцы адзінокія людзі (не маюць жонкі ці мужа), то выплаты штомесяц складаюць 800 долараў акрамя пенсіі. Атрымоўваюць аднолькавыя сумы, як члены каралеўскай сям`і, так і простыя грамадзяне. Такому раўнапраўю, такому клопату пра чалавека можна толькі пазайздросціць.

**Слухаю я аповяд галандкі Соф`і і не зайздрошчу яе шчасцю: ва ўсім цывілізаваным свеце так жывуць людзі.**

Слухаю і ад жалю сціскаецца душа за наш працавіты люд, за нашых бедных, зацяганых пенсіянераў, якія ў свой 81 год, калі дажывуць, не маюць магчымасці даехаць да паліклінікі і калі і збіраюцца ў які круіз, то толькі на той бок зямлі. На той Свет, так нічога не ўбачыўшы, не адчуўшы асалоды жыцця, не адпачыўшы...

**Няшчасны, затурканы беларускі люд, які дзесяцігоддзямі раздзяляе лёс рабоў...** Тады, у далёкія ваенныя гады, людзі лічылі, што іх вязуць у Германію на смерць. Хапала ўсяго: і смерці, і крыві, і голаду, і знявагі. Хапала на чужыне. Але хапала і хапае дагэтуль усім нам, беларусам, дома, на радзіме. Крыўдна. Жыве толькі той, хто выехаў, хто застаўся на чужыне. І як не дзіка чуць, але дзякуючы немцам, акупантам, нашы былыя грамадзяне зараз жывуць, як людзі...

**Соф`я ў захапленні ад нашага горада.**

-- Папрыгажэла Глыбокае, разбудавалася, але шкада, што для гісторыі не захаваліся маляўнічыя мясціны і помнікі архітэктуры: тая ж сажалка ля царквы, храм у Беразвеччы, будынак былой музычнай школы, памятная брама...

**Але, як бы там не было, яшчэ адзін чалавек дакрануўся душой да радзімы, да роднага спеўнага слова. Да гонару Соф`і, яна за доўгія 56 год не забылася сваю мову.** Яна ў Глыбокім старалася знайсці запісы беларускіх песень (і да нашага агульнага сораму!) не знайшла. У Беларусі не цэняцца родныя беларускія песні, якіх шмат, якія ані не горай польскіх ці расійскіх.

**Мы сфатаграфаваліся напамяць. Я пажадала Соф`і і Йоганэсу шчаслівай дарогі, а яны паабяцалі вярнуцца сюды праз год...**

**Будзем чакаць цябе, зямлячка, і спадзявацца, што вернешся ты на радзіму не госцем, а гаспадыняй.**




**Такім было Глыбокае ў 40-х гадах. Над разлеглай кляштарнай сажалкай (на яе месцы сёння -- кансервавы завод) стаяў яе дом -- крайні ў правым куце (адзначана стрэлкай). За 56 год змянілася ўсё. Але, як і тады, над абшарам дамінуе касцёл Св. Тройцы.**

**Гэтую паштоўку, выдадзеную шэсць дзесяцігоддзяў таму назад Соф`я захоўвала на чужыне ўсё жыццё, як неацэнную рэліквію і ў час сустрэчы падарыла яе супрацоўнікам газеты.**




На здымку: Соф`я Кухта з мужам і аўтар гэтых радкоў (у цэнтры) на Глыбоцкай зямлі.

"ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ"
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Юрыдычны адрас: BELARUS, 211800, г. ГЛЫБОКАЕ, вул. Маскоўская, 121

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 18 лютага 1998 года.

Газета выходзіць два разы на месяц . Аб`ём -- друкаваны аркуш. Наклад 1000 паасобнікаў. Друк афсетны. Падпісана ў друк 25 ліпеня 1999 г. у 16.00. Замова .........

Меркаванні рэдакцыі і аўтара могуць не супадаць.